Гродна
№17 (499),
23 верасня 2018
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Катэхеза – гэта больш, чым навука

Мінуў радасны час канікул і распачаўся новы навучальны год, а разам з ім – новы год катэхетычны. Гэта выключны час фарміравання розуму сэрца. На першай лініі фронту барацьбы за душы маладога пакалення стаяць катэхеты. Яны не толькі перадаюць канкрэтныя рэлігійныя веды, але і становяцца для сваіх вучняў сведкамі Божай прысутнасці ў свеце.

● працяг на с. 4



# ЖЫЦЦЁ НА БЯЗГУЧНЫМ РЭЖЫМЕ




Паблізу Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне раней знаходзілася школа для дзяцей з парушэннем слыху. Адзін клерык ля яе часта праходзіў і думаў: "А ці ведаюць глухія людзі пра Бога? А ці апекуецца імі хтосьці ў горадзе?". Аднойчы ён задаў знаёмай сям'і, якая выхоўвала глухое дзіця, пытанне адносна таго, як яны збіраюцца падрыхтаваць таго да І Камуніі. І пачуў наступны адказ: "Бог прыме…". Пасля клерыка стала непакоіць думка: не мусіць так быць. Гэтыя людзі заканчваюць школы, ідуць працаваць, ствараюць сем'і – з'яўляюцца паўнавартаснымі асобамі. Адрозненне толькі ў тым, што яны не чуюць. Такім чынам, людзі з парушэннем слыху маюць поўнае права на пазнанне Бога на адным узроўні з астатнімі. Але хто гатовы ўзяць на сябе гэтую адказнасць?

● працяг на с. 6

"Катэхет – гэта чалавек, які абараняе і стымулюе памяць пра Бога". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 9, 30–37**

Езус і Яго вучні выйшлі і праходзілі праз Галілею, і Езус не хацеў, каб нехта ведаў. Бо вучыў сваіх вучняў і казаў ім, што Сын Чалавечы аддадзены будзе ў рукі людзей, і заб'юць Яго, і забіты ўваскрэсне праз тры дні. Але яны не разумелі гэтых слоў, а спытацца ў Яго баяліся. Прыйшоў Ён у Кафарнаум і, калі быў у доме, спытаўся ў іх: "Пра што па дарозе вы разважалі?". Яны маўчалі, бо па дарозе разважалі паміж сабою, хто большы.

Сеўшы, Ён паклікаў Дванаццаць і сказаў ім: "Калі хто хоча быць першым, няхай будзе з усіх апошнім і ўсіх слугою". Потым узяў дзіця, паставіў сярод іх і, абняўшы яго, сказаў ім: "Хто прымае аднаго з такіх дзяцей у Маё імя, той Мяне прымае. А хто Мяне прымае, той не Мяне прымае, але таго, хто паслаў Мяне".

### СЛУЖЫЦЬ З ЛЮБОЎЮ

Свет, у якім апосталы выраслі і жылі, сцвярджаў, што "меншы" павінен слухацца таго, хто "вялікі", і служыць яму. Хрыстос жа пераварочвае гэтую ісціну на 180 градусаў: хочаш быць вялікім – служы іншым, паколькі веліч чалавека вымяраецца тым, наколькі ён да гэтага здольны.

Збаўца не зводзіць такую навуку да сухой тэорыі, сам з'яўляецца непахісным прыкладам служэння патрабуючым. На шматлікіх старонках Евангелля можам знайсці апісанне паслугі Езуса на зямлі. Божы Сын ніколі абыякава не праходзіў міма бедных, хворых, пакутуючых. Ён служыў людзям праз абвяшчэнне Добрай Навіны, выгнанне злых духаў, уваскрашэнне памерлых, аздараўленне ад розных хвароб душы і цела.

Нас усіх Усемагутны паклікаў да такой службы. Дапамагаючы іншым, мы служым самому Богу. Чым прыгажэйшая і больш пакорная наша паслуга, чым больш любові і сэрца ўкладаем у выкананне сваёй місіі, тым большыя мы ў вачах Стварыцеля.

**Ці здольны я бескарысліва служыць Богу і людзям?**

**Ці асцерагаюся таго, каб быць кімсьці першым і найважнейшым любой цаной?**

### XXVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 9, 38–43. 45. 47–48**

Ян сказаў Езусу: "Настаўнік, мы бачылі чалавека, які ў імя Тваё выганяў злых духаў, і забаранялі яму, бо не хадзіў з намі". Езус жа сказаў: "Не забараняйце яму, бо ніхто, хто ўчыніў цуд у Маё імя, не зможа адразу пачаць зласловіць Мяне. Бо хто не супраць нас, той з намі. І хто напоіць вас кубкам вады ў імя таго, што вы Хрыстовыя, сапраўды кажу вам, не страціць сваёй узнагароды. А хто спакусіць аднаго з малых гэтых, якія вераць у Мяне, таму лепш было б, каб павесілі яму на шыю млынавы камень і кінулі яго ў мора. Калі спакушае цябе рука твая, адсячы яе. Лепш табе калекаю ўвайсці ў жыццё, чым з дзвюма рукамі ісці ў геену, у агонь непагасны. І калі нага твая цябе спакушае, адсячы яе. Лепш табе ўвайсці ў жыццё кульгавым, чым з дзвюма нагамі быць кінутым у геену. І калі вока тваё цябе спакушае, вырві яго. Лепш табе з адным вокам увайсці ў Валадарства Божае, чым, маючы два вокі, быць кінутым у геену, дзе чарвяк іх не памірае і агонь не гасне".

### ЗНАЙСЦІ ТОЕ, ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ

Словы Езуса з'яўляюцца для нас запрашэннем да радыкальных дзеянняў. І гаворка ідзе зусім не пра адсячэнне канечнасцей ці вырыванне вачэй, але пра адшуканне ў асабістым жыцці таго, што перашкаджае ў імкненні да прыняцця Езусавага адкуплення.

Калі нашы рукі з'яўляюцца перашкодай на шляху да сустрэчы з Хрыстом, трэба зрабіць так, каб яны больш не былі прычынай граху, а рабілі ўсё на карысць Богу і бліжняму, паколькі мы – створаныя Айцом з любові – запрошаны да памнажэння дабра. Калі нашы ногі вядуць да вечнай смерці, мусім навярнуцца. Езус запрашае кожнага чалавека да паўнаты жыцця, што магчыма толькі пасля з'яднання з Ім. Дык няхай нашы штодзённыя крокі вядуць да Збаўцы. Нават калі заблукаем, будзем памятаць, што Усемагутны чакае вяртання, паколькі Ён міласэрны Айцец. Калі нашы вочы з'яўляюцца прычынай граху, неабходна адважыцца і змяніць рэчаіснасць, у якой мы жывём. Не будзьма сляпымі да цярпення ці бяды іншага чалавека, умейма заўважаць сапраўдныя каштоўнасці. Давайце прасіць у Бога сіл, каб здолець адвесці ад злога не толькі вочы, але і сэрца.

**Што мне перашкаджае быць побач з Богам?**

**Што я сею вакол сябе: дабро ці зло?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Быць вучнем

*Кожны хрысціянін належыць, перш за ўсё, да школы Езуса Хрыста. Прыняўшы хрост, чалавек становіцца Яго вучнем, які будуе сваю будучыню разам з Майстрам. У гэтай школе ён штодзённа ўзрастае да таго, каб быць добрым выхаванцам, які здольны слухацца свайго Настаўніка.*

Быць вучнем Хрыста не значыць вывучыць Евангелле на памяць, адгаворваць усе малітвы, састаўленыя Касцёлам. Вучнем Месіі з'яўляецца чалавек, злучаны са сваім Майстрам. Ён прымае ўдзел у Божым жыцці, крочыць па дарозе веры, святых сакрамантаў і захавання запаведзей Усемагутнага. Св. Павел напісаў: "Бо я вырашыў не ведаць нічога між вас, апроч Езуса Хрыста, і то ўкрыжаванага" (1 Кар 2, 2). І дадаў: "Ужо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос" (Гал 2, 20). А Езус растлумачыў: "Калі хто любіць Мяне, той захоўвае слова Маё, і палюбіць таго Айцец Мой, і прыйдзем да яго, і зробім жыллё ў яго" (Ян 14, 23).

У школе Хрыста няма абмежаванняў па ўзросце, поле, этнічным паходжанні ці пакліканні. Характарыстычнай рысай вучня Езуса павінна быць любоў, якая ахоплівае ўсіх, любоў, якая задае тон і вызначае напрамак дзеяння. Сапраўдных вучняў Езуса іншыя павінны пазнаць менавіта па любові, таму што, як казаў св. Васіль Вялікі, "маем у сабе прыроджаную моц мілавання". Быць вучнем Езуса – гэта значыць у кожную справу ўкладваць сваё сэрца, быць радасным і адкрытым на іншых, заўважаць патрабуючых, якія знаходзяцца навокал, якім можна дапамагчы. Гэта значыць верна крочыць за Ім, пакорна слухаючы Яго навуку.

Сучасны свет асабліва патрабуе рашучага сведчання веры, інакш кажучы, патрабуе прызнаць Хрыста, паказаць, што значыць быць Яго вучнем. Мы ўсе пакліканы да еднасці з Богам назаўсёды. Павінны фарміраваць сваё сумленне і сэрца па падабенстве Збаўцы. Павінны дазволіць, каб у нашых душах адлюстраваўся партрэт Пана. Дзякуючы Божай ласцы мы можам дасягнуць гэтай мэты, паколькі Езус абяцаў нам перамогу, калі застанёмся Яму вернымі.

**Дарагія Чытачы!**

На парозе новага навучальнага і катэхетычнага года варта ўсвядоміць, што кожны чалавек можа і нават павінен быць вучнем Збаўцы. Просім Хрыста, каб падтрымліваў нас у быцці Яго вучнямі, якія, кіруючыся ў жыцці любоўю, дабяруцца да шчаслівага канца. Няхай нам у гэтым дапамагае Найсвяцейшая Панна Марыя, з любоўю ахінаючы сваім мацярынскім плашчом, клапоцячыся пра тое, каб не дазналі ніякай шкоды.

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# СВ. АЙЦЕЦ ПІО З П'ЕТРЭЛЬЧЫНЫ: ЗАСТУПНІК ДОБРААХВОТНІКАЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АБАРОНЫ



*У іканаграфіі св. айцец Піо з П'етрэльчыны прадстаўлены ў капуцынскім хабіце са стыгматамі на абедзвюх руках, у якіх трымае вялікі драўляны крыж.*

**Адзін з самых вядомых містыкаў і стыгматыкаў нашых часоў. Аказаў вялікі ўплыў на сучасны Касцёл. Дзякуючы яго заступніцтву адбываюцца эфектныя навяртанні найбольш закаранелых атэістаў і цудоўныя аздараўленні.**

### ПАЗНАЧАНЫ 5-ЦЮ ХРЫСТОВЫМІ РАНАМІ

Айцец Піо нарадзіўся 25 мая 1887 года ў беднай сям'і ў невялікай мясцовасці П'етрэльчына непадалёк Неапаля (Італія). Рана адкрыў у сабе пакліканне да манаскага жыцця. Ва ўзросце 16-ці гадоў уступіў у навіцыят да айцоў капуцынаў. Святарскія пасвячэнні атрымаў у 1910 годзе.

20 верасня 1918 года падчас споведзі манах адчуў моцны боль у целе, які не праходзіў на працягу 2-ух дзён. Думаў, што памірае. Пакута была велізарнай, працінала ўвесь арганізм. Бог пазначыў яго цела 5-цю Хрыстовымі ранамі – стыгматамі. У сувязі з гэтым а. Піо перажыў шмат прыніжэнняў. На пэўны час быў вымушаны пакінуць кляштар. Жыў тады ў родным доме. На працягу 10-ці гадоў яму было забаронена кантактаваць з людзьмі і публічна адпраўляць св. Імшу. Аўтэнтычнасць стыгматаў даследавалі шмат разоў.

Амаль усё сваё манаскае жыццё а. Піо правёў у кляштары Сан-Джавані-Ратонда. Святасць, набожная малітва і жорсткія пакуты святара прынеслі плён у сотнях тысяч чалавек, якія прыходзілі да яго. Удзел у св. Імшы, якую капуцын адпраўляў амаль 3 гадзіны, быў часам вялікай ласкі і перамянення.

Тыя, хто спавядаўся ў а. Піо, пад уплывам Божага ўздзеяння перамянялі сваё жыццё. Здаралася, што людзі прыступалі да сакраманту пакаяння нават пасля 30-ці або 40-ка гадоў няверʼя. А. Піо меў ласку пранікаць унутр чалавека. Калі споведзь была няпоўнай, заахвочваў лепш падрыхтавацца і прыйсці зноў.

Капуцын з Сан-Джавані-Ратонда быў вельмі адчувальны да лёсу цяжкахворых людзей. Для іх пры падтрымцы многіх шчодрых дабрадзеяў пабудаваў "Дом палягчэння ў цярпенні" – вялікую бальніцу, якая да сёння служыць сотням пакутуючых на розныя хваробы. Валодаў таксама ласкай аздараўлення. Тыя, хто гэта дасведчыў, адчувалі вакол сябе цудоўны і моцны водар, падобны на пах фіялак.

Памёр у кляштары 23 верасня 1968 года. Беатыфікаваны 2 мая 1999 года, кананізаваны 16 чэрвеня 2002 года папам Янам Паўлам ІІ.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. АЙЦА ПІО З П'ЕТРЭЛЬЧЫНЫ?

Святы пакінуў пасланне, якое трапляе да кожнага: нягледзячы на сваю слабасць і грэшнасць, хоць гэта і нялёгка, мы можам стаць перад Богам у праўдзе, а Ён дасць нам сіл. Св. айцец Піо вучыць прымаць Божую волю і пераcоўваць свой штодзённы крыж.

### ЦІКАВА!

Праўдападобна, атрыманыя падчас споведзі стыгматы заставаліся на целе а. Піо на працягу больш за 50-ці гадоў, ажно да канца яго жыцця. Кроў, што выцякала з іх, пахла, як парфума ці кветкі. У момант адыходу манаха ў вечнасць раны зніклі, не пакінуўшы шрамаў.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Не люблю цярпення для цярпення, але для плёну, які яно прыносіць: праслаўляе Бога, збаўляе душу, ратуе з чысцца – ці можна хацець большага?".

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. айца Піо з П'етрэльчыны 23 верасня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Каб святыня ізноў заззяла белізной


Дзякуючы аператыўным дзеянням пажарных агонь не паспеў нанесці непапраўную шкоду

***Алтары, пакрытыя разводамі сажы, чорная столь, разбітыя вокны і цалкам знішчаная закрыстыя – такое сумнае відовішча адкрылася вачам мясцовых вернікаў, якія ўвайшлі ўвечары 14 жніўня ў гожскі касцёл свсв. апосталаў Пятра і Паўла пасля пажару. Ужо больш за месяц пробашч кс. Павел Шанчук разам з парафіянамі ліквідуюць яго наступствы: кожны дзень збіраюцца і наводзяць парадак, адмываюць закураную святыню, аднаўляюць пашкоджанае агнём памяшканне і рыхтуюць касцёл да касметычнага рамонту. Нягледзячы на сумныя падзеі святару ды вернікам нельга апускаць рукі: трэба рупліва працаваць, каб вярнуць належны выгляд святыні, якая ў наступным годзе адзначыць 150-гадовы юбілей.***

## НАСТУПСТВЫ ПАЖАРУ

Як устанавіла спецыяльная следчая група, прычынай пажару ў касцёле ў Гожы стаў удар маланкі. Узгаранне адбылося ў электрашчытавой у закрыстыі, у выніку службовае памяшканне цалкам выгарала.

***“Пажар заўважылі не адразу,*** – распавядае кс. Павел. – ***Толькі калі касцёл цалкам запоўніўся дымам і шэрыя клубы пачалі вырывацца з касцёльных вежаў, людзі заўважылі страшнае. Падумалі нават, што гараць самі вежы. Тушыць агонь прыехалі 6 пажарных разлікаў. Дзякуючы прафесійным і зладжаным дзеянням супрацоўнікаў пажарнай службы ўдалося ўратаваць святыню. Невядома, якую б шкоду мог нанесці агонь, калі б яго своечасова не апанавалі”.***

Пробашч гаворыць, што ў закрыстыі, якая найбольш пацярпела, захоўваліся архіўныя дакументы ад 1991 года – метрыкі хростаў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама літургічныя кнігі і адзенне. Усё было знішчана агнём.

***“Я вельмі перажываў, што ў выніку пажару мы страцілі арнат канца XIX стагоддзя – каштоўнае гістарычнае святарскае адзенне, вышытае срэбнымі ніткамі,*** – дзеліцца святар. – ***Але, на шчасце, ён уцалеў. Моладзь выкарыстоўвала арнат падчас каляднага прадстаўлення, пасля забылася пакласці яго на месца ды пакінула ў іншым памяшканні, да якога не дабраўся агонь. Таксама вельмі шкада стогадовага аргана, у якім ад высокай тэмпературы паплавіліся металічныя трубкі. Інструмент доўгі час стаяў мёртвым грузам на хорах, нават у думках не было, што ён можа загучаць. 7 гадоў таму арган удалося аднавіць. Ён быў нашай разынкай, упрыгожваў богаслужэнні, але так мала паслужыў. Зараз інструмент трэба нанова разбіраць, чысціць. Дзякуй Богу, знайшоў таго майстра, які некалі аднаўляў арган. Ён абнадзеіў, што зоймецца інструментам і, нягледзячы на пашкоджанні, той зноў загучыць”.***

Кс. Павел таксама адзначае, што пад уздзеяннем высокай тэмпературы патрэскаліся некаторыя драўляныя элементы ў цэнтральнай частцы касцёла, была нязначна



пашкоджана падлога ў прэзбітэрыі. Але гэта дробязі – на шчасце, агонь не пайшоў далей, інакш магла б загарэцца галоўная частка храма. “***Гэта сапраўдны цуд,*** – гаворыць святар. – ***Напэўна, Маці Божая Суцяшэння, абраз якой знаходзіцца ў цэнтральным алтары, уратавала наш касцёл”.***

## АДНАЎЛЕНЧЫЯ ПРАЦЫ

Пасля пажару кс. Павел заўважыў вялікую салідарнасць людзей. Вернікі прыходзілі ў святыню цэлымі сем'ямі з дзецьмі: кожны хацеў дапамагчы. Варта адзначыць, што сярод тых, хто не застаўся абыякавым, былі не толькі мясцовыя каталікі, але і праваслаўныя.

***“Выпрабаванне, якое нам выпала, вельмі моцна з'яднала жыхароў Гожы. У першыя дні было столькі добраахвотнікаў, што, шчыра кажучы, было складана кожнаму знайсці працу,*** – гаворыць пробашч. – ***Паколькі ўвесь касцёл ад падлогі да столі быў задымлены і закопчаны сажай, трэба было павыносіць тое, што магчыма, на вуліцу, адмыць і вычысціць. Стараліся працаваць хутка, пакуль шызае курава не ўелася ў алтары, абразы і лаўкі. Таксама давялося мыць усе сцены, інакш іх немагчыма было б перафарбаваць”.***

Кс. Павел распавядае, што мусілі шмат напрацавацца з вялікімі вокнамі. Іх у касцёле 12. Частка была разбіта пры тушэнні пажару. Мужчыны вынімалі вокны, мянялі, дзе патрэбна, шкло, перафарбоўвалі рамы, пасля ўстаўлялі назад. Затым кожнае акно закрывалі плёнкай, каб не пашкодзіць падчас фарбавання сцен.

***“Спачатку пры ўваходзе ў касцёл у вочы кідалася паўсюдная сажа,*** – гаворыць святар. – ***Зараз святыню часткова адмылі, выветрылі страшэнна непрыемны, рэзкі пах дыму. Вернікі кожны дзень прыходзяць сюды пасля працы, працягваюць прыводзіць касцёл у парадак. Асабліва мяне ўражвае пастава старэйшых людзей, якія, нягледзячы на свой узрост, стараюцца хоць нечым дапамагчы. Зараз магу з упэўненасцю сказаць, што гэтая бяда нас з'яднала. Першыя дні былі вельмі цяжкімі, з негатыўнымі эмоцыямі. Я нават не ведаў, за што брацца. А зараз ужо больш пазітыву. Я не адчуваю разгубленасці, бо бачу, што не адзін, што гэты касцёл патрэбны не толькі мне, святару, але і ўсім парафіянам, якія ахвяруюць свой час і сілы. За гэта я кожнаму з іх бязмерна ўдзячны. Асобную падзяку выказваю святарам і вернікам шматлікіх парафій Гродзенскай дыяцэзіі, якія не пакінулі нас сам на сам з няшчасцем і падтрымалі матэрыяльна”.***

*Касцёл свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Гожы перажываў пажар падчас вайны ў 1942 годзе. Тады ў вежу святыні трапіў снарад і касцёл цалкам выгараў унутры.*

## СВЯТЫНЯ ЖЫВЕ

Кс. Павел Шанчук дзеліцца, што першая св. Імша, якая адбылася пасля пажару, была вельмі цяжкай як для святара, так і для прысутных вернікаў. Немагчыма было стрымаць слёзы, гледзячы на пашкоджаную святыню. Цешыў толькі факт, што, не зважаючы на сумныя абставіны, набажэнствы ў гожскім касцёле не адмяняюцца і будуць праходзіць па звычайным раскладзе.

***“Праз 3 дні пасля пажару бацькі прынеслі ў святыню дзіцятка, каб ахрысціць. Затым адбылася чарговая ўзнёслая падзея: маладая пара пабралася шлюбам. Пасля адбыўся яшчэ адзін хрост... І нічога страшнага, што сцены касцёла ў гэты момант былі чорныя, затое душы людзей былі светлыя”,*** – гаворыць святар.

*Кінга Красіцкая*


Руплівыя парафіяне ад малога да вялікага наводзяць парадак у святыні


Мацней за ўсё ў пажары пацярпела закрыстыя

*Пажар у касцёле стаў вялікім ударам для гожскай парафіі. Зусім нядаўна святыня была цалкам адрэстаўравана. Зараз давядзецца прыкласці шмат намаганняў, каб скончыць рамонтныя працы да юбілею 150-годдзя. Азнаёміцца з інфармацыяй аб праведзеных працах і сачыць за падзеямі з жыцця парафіі можна на стронцы nashaparafia.com.*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Існуе рабства, якое знявольвае мацней за турму, мацней за панічны крызіс, мацней за рознага роду дыктат: гэта рабства ўласнага эга. Гаворка ідзе пра людзей, якія на працягу ўсяго дня глядзяць на сябе ў люстэрка, каб любавацца сваім “я”. Іх эга мацнейшае за іх цела. Яны нявольнікі свайго “я”… Дарагія Браты і Сёстры, хто ж сапраўдны нявольнік? [...] Той, хто не ўмее любіць! І ўсе гэтыя заганы, грахі, эгаізм аддаляюць нас ад любові і робяць няздольнымі любіць. Мы становімся рабамі саміх сябе і не можам любіць, бо любоў заўсёды скіравана на іншых людзей. Сапраўдная любоў – гэта сапраўдная свабода: яна пазбаўляе прагі валодання, адбудоўвае адносіны, дае здольнасць прымаць і цаніць бліжняга.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 12.09.2018*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Нязмерна важным дапаўненнем і паглыбленнем першай перадачы веры, якая здзяйсняецца ў хрысціянскай сям'і, з'яўляецца сістэматычная катэхізацыя дзяцей і моладзі, арганізаваная пры парафіях. Праз рэалізацыю адпаведным чынам распрацаваных праграм навучання, прыстасаваных да ўзросту катэхізаваных, парафіяльная катэхеза павінна “прывесці да сталасці веру, ужо народжаную ў душы, і выхаваць сапраўднага вучня Хрыста праз паглыбленае і больш упарадкаванае пазнанне Асобы і вучэння Хрыста, нашага Пана” (Ян Павел II, Catechesi Tradendae, 19).*

*Таму нагадваю Вам, дарагія Бацькі, што з'яўляецеся адказнымі за тое, каб Вашы дзеці наведвалі ўрокі рэлігіі пры парафіі на працягу ўсяго перыяду вучобы ў школе. Неспаўненне гэтага абавязку – сур'ёзнае маральнае занядбанне. [...] Таму прашу Вас прыняць да сэрца і ажыццявіць на практыцы заклік Хрыста Пана: “Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне, не забараняйце ім, бо такім належыць Божае Валадарства ” (Мк 10, 14).*

*Шаноўныя Браты Святары і Манаскія Айцы, паважаныя Кансэкраваныя Асобы і дарагія свецкія Катэхеты! Скіроўваю да Вас словы глыбокай удзячнасці і шчырага прызнання за руплівасць, запал і актыўнасць, з якімі Вы кожны дзень прысвячаеце сябе высакароднай справе катэхізацыі маладога пакалення.*

*Дарагія Дзеці і любімая Моладзь! Жадаю Вам як мага большых поспехаў у навучальным і катэхетычным годзе. Наведвайце рэгулярна і ахвотна ўрокі рэлігіі, каб усё лепш пазнаваць Хрыста і Яго вучэнне. Памятайце, што Ён – Ваш найлепшы Сябар, які ніколі не падвядзе і не пакіне.*

*Фрагмент пастырскага ліста на новы навучальны і катэхетычны год 2018–2019*




*◆ Святы Айцец Францішак прыняў на аўдыенцыі японскую асацыяцыю “Tensho Kenoh Shisetsu Kenshoukai”, якая займаецца праектамі культуры і салідарнасці. Арганізацыя была створана больш за 400 гадоў таму місіянерамі езуітамі. Падчас сустрэчы Папа адзначыў важнасць іх імкнення паказаць, што рэлігія, культура і эканоміка могуць мірна працаваць разам дзеля таго, каб тварыць чалавечны свет. На аўдыенцыі Пантыфік таксама абвясціў аб сваім намеры наведаць Японію ў наступным годзе.*

*◆ Па ініцыятыве папы Францішка ў сталовыя для бедных і цэнтры дапамогі ў Рыме развезлі 20 тыс. порцый марожанага для падапечных. У Ватыкане патлумачылі, што гэта падарунак ад фабрыкі, якая вырашыла раздаць сваю прадукцыю беднякам. Папскі размеркавальнік міласціны кард. Конрад Краеўскі асабіста прывёз тысячу порцый у царкоўны цэнтр дапамогі “Mondo Migliore” непадалёк Рыма, дзе знаходзяцца мігранты, якімі апекуецца Канферэнцыя епіскапату Італіі.*

*◆ Сенат Румыніі заклікаў да правядзення рэферэндуму аб змене Канстытуцыі, якая заключаецца ва ўвядзенні запісу, сцвярджаючага, што сужэнства – гэта толькі саюз мужчыны і жанчыны. У дзейснай Канстытуцыі краіны запісана, што сужэнства з’яўляецца “саюзам сужэнцаў”. Падзея адбылася пасля таго, як 3 млн румынаў падпісалі адпаведную петыцыю. Рэферэндум па гэтай справе адбудзецца ў кастрычніку.*

*◆ У лютым тэрарысты з Бока Харам выкралі са школы ў Нігерыі 113 дзяўчат. Пасля перамоў з урадам амаль усіх палонных адпусцілі, аднак на вызваленне 15-гадовай Ліі Шарыбу, якая адмовілася адрачыся ад Хрыста, тэрарысты не пагадзіліся. Некалькі тыдняў таму злачынцы прымусілі дзяўчыну надзець хіджаб і апублікавалі відэазапіс, у якім яна просіць аб дапамозе. Невядома, што дакладна адбываецца з дзяўчынай у апошнія месяцы, але з аповедаў іншых выкрадзеных вынікае, што баявікі ставяцца да сваіх палонных бязлітасна: падвяргаюць іх катаванням, гвалцяць, часам перапрадаюць, а таксама прымушаюць змяніць веру, калі маюць справу з хрысціянамі.*

*◆ У Польшчы праведзена адмысловае даследаванне адносна ролі святынь у фарміраванні мясцовай біялагічнай разнастайнасці. У каманду даследчыкаў увайшлі навукоўцы з Інстытута аховы прыроды Польскай акадэміі навук у Кракаве і доктар Уільям Сазерленд з Кембрыджскага ўніверсітэта (Вялікабрытанія). У выніку зроблены вывад, што для гнездавання птушак вялікую цікавасць прадстаўляюць касцёльныя вежы, якія нагадваюць скалы, званіцы, а таксама старыя дрэвы і кусты, якіх часта нямала па суседству. Такім чынам, моцныя градыенты асяроддзяў на невялікай плошчы здольны значна павялічыць відавую разнастайнасць птушак.*

*credo.pro; gosc.pl; aleteia.org*

# Катэхеза – гэта больш, чым навука

● працяг са с. 1



С. Вікторыя Галуза CSSH, с. Францішка Фядотава CSSH, с. Фаустына Пшанко CSSH

*Эфектыўнасць заняткаў рэлігіі ў многім залежыць ад катэхета, ад яго паставы, стылю працы. Калі катэхеза праходзіць у жывой форме, то дзеці ахвотна ўключаюцца ў навучальны працэс, з задавальненнем слухаюць, з энтузіязмам выконваюць заданні. Важна зацікавіць дзяцей, а ў сённяшнім свеце зрабіць гэта не так проста.*

*Навукоўцы сцвярджаюць, што менталітэт маладых змяняецца кожныя 5 гадоў. Таму калі катэхет не будзе паспяваць за гэтымі зменамі, яго намаганні не прынясуць чаканага выніку. Нельга спыняцца на здабытых раней ведах і карміць вучняў “учарашнім разагрэтым абедам”. Трэба развівацца, самаўдасканальвацца, разумець патрэбы маладога пакалення, умець наладжваць з ім кантакт, і ў першую чаргу любіць дзяцей. Таму ўвесь час стараемся выходзіць на іх узровень: распрацоўваем заняткі ў інтэрактыўнай форме з выкарыстаннем мультымедыйных сродкаў, пазбаўляючыся сухога тэксту. Мы ўпэўнены, што няма сэнсу пераконваць дзяцей і па 100 разоў ім паўтараць, што катэхеза – гэта добра. Трэба актыўна працаваць над тым, каб яны самі гэта зразумелі, дайшлі да гэтага. Тады абудзіцца ўласнае жаданне прыходзіць на заняткі, а не перакананне, што гэта неабходна рабіць пад прымусам.*

*Праз катэхізацыю мы перадаём жывую веру, вядзём да асабістай сустрэчы з Хрыстом, асабліва праз сакраманты і св. Імшу. Таксама вучым дзяцей адрозніваць добрае ад дрэннага, рабіць правільны выбар, разумець прычыны і наступствы сваіх учынкаў, думак і слоў. У нашай парафіі катэхеза праводзіцца для рознаўзроставых груп: гэта маленькія дзеткі ва ўзросце 3-6 гадоў, тыя, хто рыхтуюцца да Першай св. Камуніі і сакраманту канфірмацыі, старэйшая школьная моладзь. Бацькі вельмі цешацца, што ёсць магчымасць катэхізацыі пры парафіі. Аднак мы пастаянна ім нагадваем, што не трэба забывацца пра фундаментальную ролю сям’і. Нельга перакладваць на Касцёл свае асноўныя абавязкі, неабходна памятаць пра сямейную катэхезу, найперш, праз уласны прыклад: штодзённую малітву, сумеснае перажыванне свят, рэгулярны ўдзел у нядзельнай св. Імшы, свае паводзіны і адносіны да іншых.*



А. Павел Раманчук OFM Conv

*Перад сучасным катэхетам стаіць выклік: ён павінен перакласці той змест, які перадае, на зразумелую для слухачоў мову. Ментальнасць сённяшніх людзей адрозніваецца ад тых, каму было адрасавана Евангелле. Маральныя патрабаванні, якія ставяцца перад сучасным чалавекам, таксама могуць здавацца архаічнымі. Задача катэхета – паказаць, што гэтыя ісціны надалей актуальныя, даказаць, што жыццё мае вялікую вартасць, што яно поўнае адказнасці, а ў першую чаргу, што трэба яго будаваць згодна з Божымі правіламі.*

*Ісціна адна. Белае з’яўляецца белым, а чорнае – чорным. Безумоўна, можна спрабаваць гэта падавіць, але калі чалавек уважліва прыглядзіцца, ён убачыць, дзе падман, а дзе адзіная праўда, якую неабходна здабыць. Сучасныя людзі вельмі шмат думаюць і шукаюць. Ім недастаткова сказаць, што ўсё так і так, трэба гэта аргументаваць, даказаць.*

*Цяжэй за ўсё знайсці спосаб, пры дапамозе якога атрымалася б перадаць змест і багацце праўды, каб сучасны чалавек зацікавіўся. Калі ён пачне аналізаваць, знаёміцца, то, напэўна, выбера гэтую праўду. Усвядоміць, што менавіта яна патрэбна для жыцця, таму што ўнутры сябе кожны з нас адчувае жаданне душы і разумее, што свет быў бы нашмат лепшы, калі б у ім panавалі хрысціянскія вартасці.*

*Падчас сваіх заняткаў я рэдка гавару прама, аб чым будзе сённяшняя сустрэча, і рэдка чытаю лекцыю. У асноўным, задаю спрэчнае пытанне, якім набліжаю тэму, разам з катэхізаванымі пачынаем развіваць нейкі тэзіс. Тады наступае сапраўдны мазгавы штурм: удзельнікі выказваюць свае “за” і “супраць”, прыводзяць аргументы, разважаюць аб перадумовах. Заахвочваю іх таксама адкінуць тэорыі і правілы, якія некалі чулі, і прыводзіць прыклады з жыцця. Тады аказваецца, што веды, якія яны маюць, гэта часта штосьці абсалютна арозная ад жыццёвай сітуацыі. Таму мы ўвесь час спрабуем спалучыць веру і ўчынкі, без якіх яна мёртвая. Мне падабаецца, што моладзь удзельнічае, самастойна прыходзіць да высноў, робіць пэўныя вывады са сваіх разважанняў.*

*Лічу таксама, што сучасны катэхет не павінен баяцца складаных тэм, якія цяпер часта з’яўляюцца ў інтэрнэце, цыркулююць на тэлебачанні і радыё. Яны датычаць Касцёла, грахоў ці людской немачы. З аднаго боку, яны ў вялікай ступені цікавяць сучаснага чалавека, а з другога – іх нельга назваць цалкам надзейнымі: часта дэманструюцца аднабакова і маюць правакацыйны характар. Маладым католікам іх равеснікі не аднойчы задаюць падобныя пытанні. Таму трэба падрыхтаваць іх, каб маглі даваць добрыя адказы. Трэба навучыць дзяліцца сваёй верай і абараняць яе, калі ўзнікне такая неабходнасць.*



А. Аляксандр Махнач SP

*На падставе свайго святарскага і катэхетычнага досведу магу сказаць, што катэхет – гэта не толькі настаўнік рэлігіі, але перадусім той, хто спадарожнічае катэхізаванаму. Катэхізаванне – гэта не праца, а служэнне Слову і быццё Ягоным сведкам. У гэтым служэнні вельмі важнай якасцю катэхета з’яўляецца слуханне. Інакш кажучы, ён павінен умець слухаць і пачуць катэхізаваных, асабліва тых, хто сумняваецца і шукае. З гэтага слухання нараджаецца вельмі важная якасць катэхета – добрыя, даверлівыя адносіны з катэхізаванымі, сэрцы якіх распальваюцца, каб быць у касцёле – Касцёлам!*

*Спецыфіка заняткаў з моладдзю заключаецца найперш у тым, каб зацікавіць, паказаць неабходнасць удзелу ў катэхезе. Канешне, усё вельмі індывідуальна і залежыць ад таго, якія вартасці акцэнтуюцца ў сям’і маладзёна. Для каталіцкіх сем’яў, якія жывуць Богам і актыўна ўдзельнічаюць у парафіяльным жыцці, натуральна, што іх дзеці абавязкова ходзяць на катэхезу. Мяркую, што тыя маладыя людзі прагнуць развівацца ў веры. Яны актыўныя, задаюць цікавыя, часам нават правакацыйныя пытанні, якія іх хвалююць. Адразу бачна: яны гэтым жывуць, што не можа не напаўняць аптымізмам! Праблематычна, канешне, калі пасля Першай св. Камуніі дзіця губляецца і больш не ўдзельнічае ў катэхезе. Чаму так адбываецца? У многіх сем’ях ёсць вялікая праблема ў разуменні інтэгральнага выхавання дзяцей і моладзі ў супольнасці Касцёла, а сам Касцёл часам бачыцца як “каталіцкі камбінат рэлігійнага абслугоўвання насельніцтва”. Як можна пераадолець такія цяжкасці? Гэта складанае пытанне, яно мае шмат нюансаў. Аднак Касцёл ідзе наперад: праводзіць катэхезу, заахвочвае да ўдзелу ў ёй на розных узроўнях, дае сведчанне і моліцца. Відавочна, што мы – супольнасць Касцёла – павінны быць сведкамі Хрыста, бо “па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго” (Ян 13, 35).*

*Метады ў катэхезе ўжо залежаць ад крэатыву катэхета і моладзі. Я думаю, што кожны катэхет, які адказна ставіцца да свайго служэння ў Касцёле, мае нейкія ўласныя катэхетычныя “фішкі”, каб зрабіць навучанне больш цікавым, а не толькі інфарматыўным. Гэтым і павінна адрозніваецца катэхеза ад “урокаў рэлігіі”, якія, у асноўным, інфарматыўныя. Катэхеза – гэта комплекснае, інтэграцыйнае выхаванне ў веры, праз якое катэхет навучае і дае ўласны прыклад катэхізаванаму, як трэба жыць у гармоніі з Богам і адчуваць сябе адказным за вялікую Божую Сям’ю – Касцёл.*

*Кінга Красіцкая*




***У старэйшым узросце шмат разважаеш над жыццём, перабіраеш у памяці моманты і сітуацыі, якія сталі вызначальнымі. У свае 75 гадоў моцна прагну падзякаваць светлай памяці маме за дар веры. Наказы, якія я з дзяцінства чула ад матулі і захоўвала як скарб, пранесла праз усё жыццё: “Хто як Бог”, “Дзе праўда, там і Бог”, “Хвалі Пана Бога – і ніколі не загінеш”, “У цяжкія хвіліны трымайся Божай рукі, ніколі не паддавайся спакусе, з Божай пакорай пераможаш усё”…***

*Як кажуць, хрысціянскі дом, на парозе якога стаіць набожная маці, ніколі не разбурыцца. Менавіта па прыкладзе матулі дзеці пераймаюць традыцыі, імкнуцца жыць у стане асвячаючай ласкі штодзённа, захоўваючы Божыя запаведзі і касцёльныя наказы. Чалавек веры здольны нават у самай складанай сітуацыі захоўваць Хрыстовы супакой і выпраменьваць радасць.*

*Мая мама была вельмі энергічнай, шмат малілася. Спявала ў хоры, узначальвала маёвыя і чэрвеньскія набажэнствы ў капліцы. Тады яшчэ не было катэхізмовак, таму бацькі прасілі маю маму, каб дапамагла падрыхтаваць іх дзяцей да І Камуніі.*

*Тата, па волі лёсу, вярнуўся з вайны прастуджаны і сур’ёзна захварэў на лёгкія. Адышоў у вечнасць, пакінуўшы жонку і 6-ых дзяцей. Мне было тады толькі 10 гадоў. Але мама заўсёды старалася быць моцнай духам, ніколі не адчайвацца, давяраючы ўсе цяжкасці Богу. Пасля смерці таты ўступіла ў ІІІ Ордэн. Я вельмі ўдзячна сваёй матулі за прыклад веры і набожнасці, якім яна жыла штодня.*

*Галоўныя хрысціянскія вартасці ва ўсе часы людзям таксама імкнуцца данесці і пасеяць у сэрцах душпастыры. Нават у мінуўшыя гады, у эпідэмію бязбожнасці, мы заўсёды мелі духоўных настаўнікаў, святароў. Калі парафія сірацела і пазбаўлялася ксяндза, ездзілі ў суседнія парафіі. З уважлівасцю слухалі святароў, якія выхоўвалі нашы душы і давалі слушныя і важныя парады на жыццё. Сёння мы вельмі ўдзячны цяперашняму пробашчу нашай парафіі кс. Уладзіславу Сурвілу за ахвяру св. Імшаў, удзяленне бласлаўлення, прамаўленне казанняў, каб мы ўзрасталі ў веры і хрысціянскай дасканаласці.*

***З цягам часу я прыйшла да высновы, што мы проста абавязаны ўзносіць малітвы ўдзячнасці за бацькоў, катэхетаў, біскупаў, святароў, манахінь, а таксама ўсіх людзей добрай волі, якія хочуць навучыць нас быць добрымі і служыць іншым.***

*Чытачка, парафія Войстам*

# Аб ролі семінарыі ў фармацыі будучага святара

19 верасня ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне адбылася інаўгурацыя новага навучальнага года. На ўрачыстае адкрыццё года прыбыло шмат гасцей, у тым ліку і Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч, які 28 гадоў таму заснаваў гэтую першую ў Беларусі касцёльную ўстанову для фармацыі святароў. Як заўважыў іерарх, "задача семінарыі – падрыхтаваць тых, хто будзе не толькі абвяшчаць Божае слова, цэлебраваць сакраманты і здзяйсняць іншыя паслугі, але і тых, хто павінен будзе стаць духоўнымі лідарамі людзей. Ад іх якасці будзе залежыць і якасць служэння Касцёла".

***У спецыяльным інтэрв'ю для "Слова Жыцця" рэктар Гродзенскай ВДС кс. Віталій Вайцяхоўскі разважае над тым, якім павінен быць сучасны святар і якія ўмовы неабходны для выхавання будучага душпастыра.***

***– Кс. Віталій, якім, на Ваш погляд, павінен быць сучасны святар?***

– Кожны святар павінен, перш за ўсё, моцна любіць Бога. Любіць настолькі, каб баяцца Яго пакрыўдзіць. Вядома, і час накладвае свой адбітак, надае пэўную спецыфіку душпастырскай паслузе. Дакладна зразумела адно: такім, якім святар быў 100 і нават 50 гадоў таму, сёння ён не будзе. Сучаснае грамадства патрабуе больш блізкіх адносін з душпастырам. Гэта значыць, людзі хочуць бачыць яго не толькі падчас св. Імшы, але і ў паўсядзённасці, у сваім звычайным, побытавым жыцці. Гэта трэба ўсведамляць і на гэта трэба быць адкрытым.

Адаптуючыся пад павевы часу, вельмі важна захоўваць святарскую годнасць, слепа не прыпадабняцца і не пераўтварацца ў нешта штучнае. Душпастыр павінен быць блізкі людзям, зразумелы ім, але ў той жа час заставацца прыкладам і пастырам, які здольны весці за сабой.

Часта людзі чакаюць ад святара сведчанняў, учынкаў. Не заўсёды гэта мусяць быць вялікія справы або гераічныя чыны. У сучасным святары людзі павінны бачыць асобу, якая імкнецца жыць па-божаму. Адсюль, напэўна, і слова "пабожны". І тут я маю на ўвазе не толькі набожнасць у малітве, служэнні, але, перш за ўсё, набожнасць у паўсядзённасці, якая характарызуецца такімі простымі рэчамі, як дабрыня, спагадлівасць, шчырасць і г. д. Калі коратка і шырока, святар – гэта добры сучасны чалавек, які жыве ў Божай ласцы.

***– Святароў рыхтуюць у духоўных семінарыях. Як павінен быць наладжаны навучальны і фармацыйны працэс, каб выхаваць добрага працаўніка на Божай ніве?***

– На самой справе, гэта вельмі складанае пытанне. Калі б адказ быў такім простым, то працэс фармацыі добрых святароў быў бы пастаўлены на паток. Вызначальныя моманты – гэта жаданне самога кандыдата, яго адкрытасць на Божую ласку, умацаванне ў малітве і, канешне, узаемная шчырасць.

***– Што маеце на ўвазе пад выразам "узаемная шчырасць"?***

– Кожнага Бог вядзе сваім непаўторным шляхам. Мы ўсе – як клерыкі, так і выкладчыкі – стараемся прыслухоўвацца адзін да аднаго, разам адказваць на выклікі часу і шукаць шляхі вырашэння надзённых праблем. Гэта наша агульная справа.

Трэба адзначыць, што пасля заканчэння семінарыі "гатовага" святара не атрымаецца – ён толькі будзе вучыцца быць святаром. Дзень за днём будзе рабіць крокі, якія наблізяць яго да гэтага. Такім чынам, семінарыя паказвае правільны кірунак, а сам шлях душпастыра пачынаецца з прэзбітэрскіх пасвячэнняў. Інакш кажучы, працэс станаўлення святара можна параўнаць з уменнем плаваць. Ты ніколі не станеш добрым плыўцом, пакуль не нырнеш у ваду.

***– На сёння маем у Беларусі 2 духоўныя семінарыі: у Гродне і ў Пінску. У чым іх падабенства і галоўныя адрозненні? У чым адметнасць гродзенскай семінарыі?***

– Яны вельмі падобныя, бо маюць адну мэту і сродкі. Адрозненні, я б сказаў, фармальныя. З бягучага года ў Гродне да святарства будуць рыхтавацца клерыкі з іншых дыяцэзій, а ў Пінску – толькі з Пінскай дыяцэзіі. Да гэтага часу было наадварот.

Унікальнасць кожнай семінарыі, я лічу, у людзях. І толькі ў іх. Менавіта яны ствараюць непаўторную атмасферу кожнай супольнасці. У нашай семінарыі гэта, напрыклад, кс. прэлат Ежы Лявінскі. Уся яго дзейнасць прасякнута пасланнем Божай міласэрнасці. Святар імкнецца данесці яго да навучэнцаў, выхаваць у іх сэрцах, сведчыць таксама пра міласэрнасць сваім прыкладам. Яшчэ адным чалавекам, які назаўсёды застанецца ў памяці семінарыі, з'яўляецца светлай памяці кс. Тадэвуш Вышынскі. Яго "каньком" былі спевы. Калі ў горад прыязджалі госці і чулі семінарыстаў, пазнавалі іх, перагаворваючыся паміж сабой: "гэта гродзенскія пяюць", "музычная школа кс. Вышынскага"… І такіх людзей у нас вельмі шмат. Кожны ўносіць у жыццё семінарыі сваю асабістую непаўторнасць.

***– Гродзенскай ВДС ужо 28 гадоў. Наколькі яна адрозніваецца ад той, што была заснавана ў 1990 годзе?***

– Я вучыўся ў гродзенскай семінарыі ў 1997–2003 гадах. Магу сказаць, што тая семінарыя і семінарыя, у якой зараз выкладаю, гэта дзве розныя навучальныя ўстановы. Усё вельмі змянілася. Людзі – і тыя, што прыйшлі працаваць, і кандыдаты – зусім іншыя. Іншая жыццёвая сітуацыя, абставіны, погляды, спосаб мыслення. Не тая колькасць клерыкаў (іх цяпер менш). Але захаваліся некаторыя традыцыі, кардынальна не змяніўся сам навучальны працэс, спосабы яго падачы.

***– Ці варта прыслухоўвацца да замежнага вопыту дзейнасці духоўных семінарый? Альбо ў нас свая спецыфіка і свой асаблівы шлях развіцця?***

– А чаму б і не? Мы з'яўляемся часткай Паўсюднага Касцёла. Ён цудоўны ў сваёй разнастайнасці. Добрыя традыцыі вартыя ўвагі: гэта нас узбагачае. Нядаўна я быў на сустрэчы рэктараў у Польшчы, дзе прысутнічалі прадстаўнікі розных краін. І многія з іх дзяліліся сваім вопытам адносна нейкіх наваўвядзенняў, іх пазітыўнымі і негатыўнымі вынікамі. Хачу заўважыць, што такі абмен кампетэнцыямі дапамагае пазбегнуць пэўных памылак, якія не адразу могуць быць прадбачаны і прадухілены.

***– Як бачыце далейшую дзейнасць Гродзенскай ВДС?***

– Вядома, з прыбыццём навучэнцаў з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Віцебскай дыяцэзіі семінарыя ўзбагаціцца традыцыямі ўсходняй часткі Беларусі. Але мэта, сродкі, арганізацыя самага працэсу фармацыі прынцыпова не зменяцца. Гродзенская семінарыя працягвае ісці сваім ранейшым шляхам.

*Ангеліна Пакачайла*

***Кс. Віталій Вайцяхоўскі нарадзіўся 9 кастрычніка 1979 года. Паходзіць з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча 29 мая 2004 года. У 2007–2011 гадах вывучаў тэарэтычную філасофію ў Люблінскім каталіцкім універсітэце імя Яна Паўла II (Польшча). У 2011–2018 гадах з'яўляўся пробашчам парафіі св. Антонія і Аб'яўлення Пана ў Каменцы і адміністратарам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Дзембраве (дэканат Шчучын). З 2011 года выкладае філасофскія дысцыпліны ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. У 2018 годзе прызначаны яе рэктарам.***

## Малітва за клерыкаў

Езу. Ты гэтым займіся!

**Пане, ахвярую Табе маю малітву, цярпенні і крыж за тых, хто рыхтуецца да святарства, каб набожна адказалі на голас Твайго паклікання. Учыні, каб узрасталі ў мудрасці і ласцы, у любові да Бога і бліжняга. Дапамажы ім пераймаць Цябе ў паслухмянасці, убостве і чыстасці. Паспрыяй таксама, каб яны самі сталі святымі і да святасці вялі даручаны ім у будучым Божы люд. Амэн.**

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

DEON.PL

### 13 285 пар чаравічкаў перад Парламентам Новай Зеландыі

***Дзіцячы абутак быў сімвалічна размешчаны на ўспамін аб дзецях, якіх пазбавілі жыцця ў выніку аборту.***

*Гэта наглядна паказвае жахлівы маштаб абортаў. Новая Зеландыя – параўнальна невялікая краіна, якую насяляе каля 4,5 млн жыхароў. "У мінулым годзе ў выніку абортаў у краіне загінула 13 285 ненароджаных дзяцей. Якой бы не была прычына, па якой жанчыны рашаліся на аборт, жыццё ў іх лоне было страчана. Пра гэта ніколі нельга забывацца. Тыя хлопчыкі і дзяўчынкі ўжо не скажуць за сябе", – патлумачылі арганізатары акцыі.*

CatholicNews.by

### Абраз Езуса з тысяч сэлфі

***У Літве правялі акцыю, у межах якой усе жадаючыя маглі дасылаць свае партрэты, каб стаць часткай калажа іконы Божай Міласэрнасці.***

*Знакамітая выява Езуса Міласэрнага з тысяч маленькіх фатаграфій стваралася з мэтай дэманстрыцыі на віленскай Катэдральнай плошчы – месцы чакання прыезду ў краіну папы Францішка.*

*Арганізатары акцыі адзначылі, што ладзілі яе дзеля таго, каб удзельнікі сустрэчы звярнулі ўвагу на пасланне Божай міласэрнасці, якое Святы Айцец пастаянна запрашае выконваць на практыцы праз справы міласэрнасці.*

*Аналагічная акцыя ладзілася на Сусветных днях моладзі ў Кракаве ў 2016 годзе.*

Radio Vaticana

### Крыжыкі ад Пантыфіка

***Каля 40-ка тыс. металічных крыжыкаў былі раздадзены на плошчы св. Пятра пасля малітвы "Анёл Пански" з папам Францішкам. Раздаць падарункі ад Святога Айца дапамаглі шматлікія бедныя, бяздомныя і мігранты.***

*"Крыж – гэта знак любові Бога, які ў Езусе падарыў нам жыццё. Заклікаю Вас прыняць і занесці гэты дар у свае дамы, у пакоі Вашых дзяцей, бабуль і дзядуль, у іншыя месцы, але каб яны былі бачны дома. Гэта не дэкаратыўны знак, а рэлігійны, каб сузіраць і маліцца. Гледзячы на ўкрыжаванага Езуса, мы глядзім на наша збаўленне", – сказаў Папа.*

*У празрыстай абгортцы разам з крыжыкамі вернікі атрымалі маленькія карткі, на якіх на 3-ох мовах былі напісаны словы папы Францішка, прамоўленыя падчас Крыжовага шляху на Сусветных днях моладзі ў Рыа-дэ-Жанейра ў 2013 годзе: "У крыжы Хрыста знаходзіцца ўся любоў Бога, Яго бясконцая міласэрнасць".*




## Чаму пратэстанты хрысцяць дарослых, а каталікі – дзяцей?

*Напачатку трэба заўважыць, што ў Каталіцкім Касцёле хрост удзяляецца не толькі дзецям, але і дарослым, якія яшчэ не былі ахрышчаны ў імя Найсвяцейшай Тройцы. Такім чынам правільным будзе сказаць, што каталікі хрысцяць дзяцей і дарослых. У пратэстантаў іншае разуменне сакрамантаў і – у выніку – іншае ўспрыманне і практыкаванне веры.*

*Навучанне Каталіцкага Касцёла грунтуецца на Святым Пісанні і Традыцыі, якая сягае пачаткаў супольнасці вернікаў і фарміравалася на працягу першых стагоддзяў хрысціянства. Касцёл працягвае выконваць наказ Хрыста: “Ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Святога Духа” (Мц 28, 19) – абвяшчаючы сучаснаму чалавеку словы Збаўцы: “Хто паверыць і ахрысціцца, будзе збаўлены, а хто не паверыць, будзе асуджаны” (Мк 16, 16).*

*У Традыцыі Касцёла хрост з’яўляецца падмуркам хрысціянскага, духоўнага жыцця ў супольнасці вернікаў і брамай, неабходнай для збаўлення (параўн.: Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 1213). Менавіта праз хрост чалавек сустракаецца з Богам у Найсвяцейшай Тройцы і становіцца ўсыноўленым Божым дзіцём. Абмыванне хрысцільнай вадою вызваляе ад першароднага граху і надзяляе ласкай, неабходнай для збаўлення.*

*Ва ўводзінах да парадку хросту знаходзім вельмі яснае абгрунтаванне каталіцкай практыкі ўдзялення хросту: “Касцёл, які атрымаў місію евангелізацыі і хрышчэння, ужо з першых стагоддзяў хрысціў не толькі дарослых, але таксама і немаўлят. Бо словы Пана: «Калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Божае Валадарства» (Ян 3, 5), – ён заўсёды разумеў такім чынам, што дзяцей нельга пазбаўляць хросту, паколькі іх хрысцяць у веры таго самага Касцёла, якую абвяшчаюць бацькі, хросныя і іншыя прысутныя. Менавіта яны прадстаўляюць як мясцовы Касцёл, так і ўсю супольнасць святых і вернікаў – Касцёл, нашую Маці, якая ўся нараджае ўсіх і кожнага паасобку” (Парадак хросту дзяцей, Уводзіны, 2).*

*У Каталіцкім Касцёле, падобна як і ў Праваслаўнай Царкве, хрост удзяляецца немаўлятам у перакананні, што вера – гэта найвялікшы дар, які бацькі могуць дапамагчы атрымаць сваім дзецям. У катэхезе, прысвечанай таямніцы хросту, Святы Айцец Францішак сказаў: “Некаторыя людзі думаюць: для чаго хрысціць дзіця, якое нічога не разумее? Мы думаем, што яно вырасце, зразумее і само спытае пра хрост. Але гэта азначае адсутнасць даверу да Святога Духа, бо калі мы хрысцім дзіця, у яго ўваходзіць Святы Дух і ад самага маленства дапамагае ўзрастаць у ім хрысціянскім цнотам, якія потым расквітнеюць” (Папа Францішак, Хрост – гэта другі Дзень нараджэння).*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле catholicnews.by***

# ЖЫЦЦЁ НА БЯЗГУЧНЫМ РЭЖЫМЕ

● *працяг са с. 1*

## ПРАКЛАСЦІ МОСТ ЗРАЗУМЕННЯ

Тагачасным клерыкам быў кс. Валерый Лісоўскі, цяперашні пробашч парафіі Вярэйкі (дэканат Ваўкавыск). Ён пайшоў у школу для глухіх і вывучыў жэставую мову. Там пад яго кіраўніцтвам адбылася першая катэхеза для дзяцей.

Праз некаторы час у коле глухіх асоб стала вядома пра св. Імшу на рускай мове, на якой клерык робіць сурдапераклад. Людзі сталі з цікавасцю прыходзіць. Пазней ён ужо як дыякан пачаў выступаць у якасці перакладчыка на споведзі. ***“Вядома, прысутнасць на сакраманце пакаяння пасрэдніка ў любога чалавека можа выклікаць дыскамфорт,*** – заўважае кс. Валерый. – ***Таму лічу, што калі святар вырашаецца на душпастырства людзей з парушэннем слыху, ён павінен ведаць жэставую мову. Да таго ж, калі вывучыў яе, людзі разумеюць, што зрабіў гэта дзеля іх. Дадзены момант мае для іх велізарнае значэнне”.***


*Адны з першых удзельнікаў душпастырства, якія прынялі Першую св. Камунію ў касцёле ў Нецечы*

У канцы 1990-х гадоў кс. Валерый распачаў душпастырскую апеку над глухімі. Сталі збірацца групы на катэхезу. Шмат хто пасля доўгіх гадоў прымаў хрост, прыступаў да І Камуніі. ***“Добра памятаю 75-гадовую жанчыну з Ліды, якая ўпершыню прыняла Пана Езуса ў сваё сэрца. Ужо адышла з гэтага свету, але з Богам”,*** – успамінае святар. Душпастыр таксама рыхтаваў кандыдатаў да сакрамантаў канфірмацыі і шлюбу.

## ДОБРАЗЫЧЛІВА НАСТРОЕНЫЯ

Паступова выпрацаваўся першы этап традыцыі: людзі прымалі рэгулярны ўдзел у св. Імшах, адзначалі касцёльныя святы, прыходзілі ў святыню на супольныя малітвы, на Дзень усіх памерлых пісалі “задушкі”. Калі нехта адыходзіў у вечнасць, развітацца прыходзілі амаль усе.

Дзякуючы намаганням душпастыра на працягу некалькіх гадоў для дзяцей ладзіўся інтэграцыйны адпачынак у лагеры ў Нецечы (дэканат Ліда). Удзельнікі супольнасці мелі магчымасць прымаць удзел у пілігрымках па святых месцах Беларусі і Польшчы. ***“Мы з жонкай стараемся ездзіць заўжды, калі ў душпастырстве штосьці арганізуецца,*** – распавядае Станіслаў Абуховіч. – ***Былі ў Чанстахове, у Тракелях... Шмат у якіх касцёлах! Пазнавалі іх гісторыю, разам маліліся. Я вельмі рады, што ў нас ёсць такая магчымасць паван-драваць, убачыць свет”.***

За гэты час людзі больш адкрыліся, пачулі сябе ў супольнасці вальней. ***“Сёння ўдзельнікі душпастырства ўсё часцей прыходзяць у закрыстыю з пытаннямі. Гэта для іх адзін са шматлікіх спосабаў вырашыць свае праблемы, якія датычаць не толькі духоўнага жыцця, але і нейкіх момантаў у працы, у сям’і,*** – распавядае кс. Валерый. – ***Вельмі важна, што ў душпастырстве добра дзейнічае апостальская місія. Пра ўсё тое, аб чым удзельнікі супольнасці даведваюцца падчас сустрэч, яны дзеляцца з іншымі”.***

## НЕСАПСАВАНАЯ ШЧЫРАСЦЬ

На дадзены момант у Гродне пражывае каля тысячы асоб з парушэннем слыху (каталіцкага веравызнання). Усе яны ведаюць адзін аднаго ў твар. Як адзначае кс. Валерый, гэта замкнёная прастора, “асобная дзяржава, якая трымаецца разам”. ***“Да іншых людзей яны звычайна адносяцца насцярожана,*** – заўважае ксёндз. – ***Ведаюць, што іх могуць падмануць, бо не раз сутыкаліся з гэтым. Дарэчы, той, хто хоць аднойчы падмануў гэтых людзей, губляе іх давер назаўсёды. Затое калі яны давяраюць, то цалкам і да канца. Часта адзін аднаму перадаюць: «Гэтаму чалавеку можна давяраць»”.***

Святар дзеліцца, што, з аднаго боку, у супольнасць такіх людзей цяжка ўваходзіць, бо працей усё ж разумееш таго, з кім размаўляеш на адной мове. З другога боку, як былы душпастыр ён хоча адзначыць іх амаль стоадсоткавую паслухмянасць. ***“Калі гаворыш, напрыклад, што трэба прыйсці да споведзі ў 3-юю нядзелю Вялікага посту, у гэты дзень усе будуць стаяць у чарзе да канфесіянала. Кагосьці не заўважаю ў касцёле – разумею, што чалавек, хутчэй за ўсё, захварэў, бо зазвычай маюць прывычку загадзя падысці і адпрасіцца,*** – гаворыць кс. Валерый. – ***Калі хтосьці мяркуе, што з-за пэўных абмежаванняў вера такіх людзей павярхоўная, то ён моцна памыляецца. Мне здаецца, яны вераць вельмі глыбока. Сёння мы можам арганізоўваць усяночныя канцэрты праслаўлення, але нам цяжка выседзець цэлую ноч у цішыні, каб сустрэцца з Богам сам-насам. А яны папросту жывуць у гэтай цішыні...”.***

*У кожнай краіне існуе свая жэставая мова, і некаторыя паняцці могуць паміж сабой адрозніваецца. Напрыклад, “любоў” на рускай жэставай мове перадаецца плаўным рухам ад вуснаў да сэрца, на польскай – скрыжаваннем кісцей, сціснутых у кулакі. Такім чынам, польскае “любоў” больш падобнае да рускага “нябожчык”. Але глухія паміж сабой усё роўна знаходзяць агульную мову. Калі нешта не разумеюць, перапытваюць адзін аднаго.*

## ЦІКАВАСЦЬ ДА ЖЭСТАВАЙ МОВЫ

Святар распавядае, што сёння дзецям усё часцей ужыўляюць слухавы імплант, які адкрывае ім свет гукаў. Па гэтай прычыне колькасць удзельнікаў у душпастырстве не расце. Дзеці адаптуюцца да новага жыцця і ўжо духоўна развіваюцца пры сваіх парафіях. У супольнасці застаюцца толькі глухія. ***“Яны могуць жыць у розных канцах горада, а разам збірацца на сустрэчах душпастырства. Гэта выдатная магчымасць для камунікацыі, чаго ім зазвычай так не стае,*** – гаворыць ксёндз. – ***Сустракаюцца ўдзельнікі супольнасці рэгулярна, па нядзелях”.***

Гарантыяй таго, што душпастырства не прыпыніць сваю дзейнасць, з’яўляецца клопат пра будучыню прафесійных кадраў. На працягу некалькіх гадоў у гродзенскай семінарыі праводзіцца факультатыў па вывучэнні жэставай мовы. Некаторыя клерыкі цікавяцца ёй і наведваюць заняткі, а пасля прымяняюць свае веды падчас св. Імшы для глухіх. Кс. Валерый, які выкладае факультатыў, падкрэслівае, што жэставая мова патрабуе неадкладнай практыкі: ***“Няма сэнсу ў адной толькі тэорыі. Паўгады, год – і ўсё забудзецца”.***

*Глухія людзі прачынаюцца па вібрацыі будзільніка, адчыняюць дзверы госцю, калі па ўсёй кватэры пачынаюць міргаць лямпачкі. Глядзяць кінастужкі з субтытрамі, тэлефануюць пасродкам відэасувязі або пішуць адзін аднаму ў сацыяльных сетках. Як і ўсе, могуць вадзіць аўтамабіль, гуляць у футбол і нават танцаваць.*



Сёння ў Гродзенскай дыяцэзіі жэставай мовай валодаюць кс. Валерый Лісоўскі, кс. Віталій Дабраловіч, кс. Ян Кузюк. З нядаўняга часу душпастырствам глухіх у Гродне апекуецца кс. Ян Кузюк, які змяніў на пасадзе шматгадовага душпастыра супольнасці кс. Валерыя Лісоўскага.

**Сёлета дыяцэзіяльнаму душпастырству глухіх у Гродне – першаму на тэрыторыі Беларусі – споўнілася 20 гадоў.**

*Ангеліна Пакачайла*

## НАВІНЫ



### ПІЛІГРЫМКА НА ПАЧАТАК НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА І КАТЭХЕТЫЧНАГА ГОДА

Традыцыйна ў 3-юю нядзелю верасня дзеці і моладзь, настаўнікі і выхавацелі, выкладчыкі і катэхеты вырушылі ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы (дэканат Гродна-захад), каб на парозе новага навучальнага і катэхетычнага года аддацца пад мацярынскую апеку Найсвяцейшай Панны Марыі. Св. Імшу ў санктуарыі ўзначаліў біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка. Іерарх асвяціў школьныя прылады і ўдзяліў прысутным пастырскае блаславенне. Завяршылася праграма прэзентацыяй парафіяльных груп і канцэртам гурта Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN".

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзначаліў урачыстасці ў гонар Маці Божай у парафіі Бялынічы (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія). Іерарх прыгадаў гісторыю цудадзейнага абраза Маці Божай Бялыніцкай і ўсхваліў росквіт культу мясцовых вернікаў да Марыі.

Пазней біскуп узначаліў урачыстасці на мядзельскай Кальварыі (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія), дзе ўдзяліў групе вернікаў сакрамант канфірмацыі.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




З мэтай арганізацыі належнай і прадуктыўнай працы святліц у парафіях Гродзенскай дыяцэзіі спецыялісты "Карытас" з Варшавы правялі 2 семінары на тэму "Мэты і задачы святліцы. Дапамога людзям у крызісная сітуацыі".

У Сапоцкіне адкрыўся Дом міласэрнасці, які будзе служыць для пілігрымаў, турыстаў, гасцей. Дом можа прыняць на начлег 52 чалавекі. Запрашаюцца таксама арганізаваныя групы для правядзення разнастайных мерапрыемстваў. У Доме маецца канферэнц-зала. Па папярэдняй дамоўленасці магчыма арганізацыя харчавання.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Новы навучальны год семінарысты Гродзенскай ВДС распачалі рэкалекцыямі, якія правёў а. Віталій Сярко SP. Падчас аскетычных канферэнцый духоўны кіраўнік імкнуўся прывіць будучым душпастырам любоў да святых, запаліць у іх сэрцах жаданне наследаваць Хрыста па прыкладзе блаславёных святароў.

У свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі 3-ое навучэнцаў упершыню апранулі духоўнае адзенне – сутаны і каларацкі.

### АДНЫМ РАДКОМ



• Вернікі парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне ў складзе 21-го чалавека наведалі парафіяльную капліцу ў Калетах. • Вернікі з Ліды здзейснілі аўтобусную пілігрымку па святынях Беларусі. • Убачыла свет кніга „Z Grodna za Łososiankę" ("З Гродна за Ласасянку") а. д-ра Язэпа Макарчыка OFMConv., якая ўтрымлівае багатую і дакладную гісторыю Сапоцкінскага дэканата.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**23 верасня 1996 г.** – кс. прэлат Антоній Банькоўскі, *проб. Осава.*
**24 верасня 1939 г.** – кс. Ян Крынскі, *проб. Зэльва;*
**25 верасня 1933 г.** – кс. Ян Карвэліс, *проб. Дварэц;*
**30 верасня 1957 г.** – кс. Тэафіл Прышмант, *проб. Старыя Васілішкі;*
**30 верасня 1973 г.** – кс. Пётр Нямыцкі, *проб. Астравец;*
**1 кастрычніка 1984 г.** – кс. Казімір Валентыновіч, *проб. Мсцібава;*
**3 кастрычніка 1968 г.** – кс. Адольф Сакалоўскі, *проб. Міхалішкі;*
**6 кастрычніка 1996 г.** – кс. Станіслаў Роек SchP, *проб. Ліда;*
**6 кастрычніка 2002 г.** – кс. Антоній Саміла, *проб. Гожа, Путрышкі, Прывалка;*
**7 кастрычніка 1960 г.** – бр. Пантэлеон Жэброўскі SchP, *Ліда;*
**7 кастрычніка 1962 г.** – кс. Уладзіслаў Красоўскі, *проб. Галынка.*

## АНОНСЫ

### ВОСЕНЬСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Трохдзённыя духоўныя практыкаванні будуць праходзіць у рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці".**

**План рэкалекцый:**

**КАСТРЫЧНІК**
**5–7 кастрычніка:** рэкалекцыі для мужчын, кс. Валерый Лісоўскі;
**19–21 кастрычніка:** "Бог ёсць Любоў" (1 Ян 4, 16), кс. д-р Аляксандр Севасцьяновіч.

**ЛІСТАПАД**
**9–11 лістапада:** "Унутранае ацаленне", кс. Віктар Ханько;
**16–18 лістапада:** рэкалекцыі для сужэнскіх пар з малітвай аб дары патомства, кс. Чэслаў Паўлюкевіч;
**23–25 лістапада:** рэкалекцыі аб "Сведчанні" і "Павучанні" з дзённіка Аліцыі Лянчэўскай, кс. Чэслаў Паўлюкевіч.

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

### ДУШПАСТЫРСТВА "OPEN" ЗАПРАШАЕ НОВЫХ УДЗЕЛЬНІКАЎ!

**У межах моладзевай супольнасці студэнтаў і працуючай моладзі дзейнічаюць некалькі груп: дабрачынная суполка "Уваскрасенне" (дапамога хворым дзецям, сіротам, бяздомным); малітоўная суполка "Caritas Dei" (супольная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту); біблейская група "Effata" (разважанні над Святым Пісаннем). Пры душпастырстве таксама дзейнічае музычны гурт з аднайменнай назвай.**

Агульныя сустрэчы адбываюцца ў кожны чацвер навучальнага года пры рэктаральным касцёле Звеставання НПМ (пабрыгіцкі) у Гродне (вул. Маладзёжная, 2, каля Дома сувязі). У 19.15 пачынаецца св. Імша, пасля чаго прадугледжаны час для размоў, дыскусій і цікавых мерапрыемстваў. Калі адчуваеш сябе маладым і хочаш рэалізаваць час сваёй маладосці як мага лепш, Цябе з радасцю прымуць у душпастырстве "OPEN"!

### ПАРАФІЯ СВ. СТАНІСЛАВА КОСТКІ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў МЕДЖУГОР'Е

**Аўтобуснае паломніцтва адбудзецца 14–19 лістапада.**

**Дзень 1-шы:**
16.00 – збор і адпраўленне з Ваўкавыска, ад'езд у Меджугор'е.

**Дзень 2-гі:**
- прыезд у Меджугор'е, св. Імша;
- абед-вячэра, начлег.

**Дзень 3-ці:**
- прагулка па горадзе з узыходжаннем на Гару аб'яўленняў;
- абед-вячэра, начлег.

**Дзень 4-ты:**
- сняданак, прабыванне ў Меджугор'і;
- св. Імша, удзел ва ўрачыстасцях, ад'езд у Мастару, экскурсія па горадзе з гідам;
- абед-вячэра, начлег.

**Дзень 5-ты:**
- сняданак, адпачынак на моры;
- ад'езд у Ваўкавыск (каля 16.00).

**Дзень 6-ты:**
- вяртанне ў Ваўкавыск (каля 20.00).

*Больш інфармацыі можна атрымаць у адказнага за пілігрымку кс. каноніка Алега Дуля, пробашча парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску, па тэлефоне: (8 029) 313-65-64.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ЧЛЕНАЎ ЖЫВОГА РУЖАНЦА АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Спатканне пройдзе ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі 27 кастрычніка. Запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы, адказныя і ўдзельнікі ружанцовага малітоўнага руху.**

**Праграма:**

11.00 – прывітанне;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да споведзі);
– Ружанец;
– перапынак;
12.15 – канферэнцыя;
13.00 – Крыжовы шлях;
14.00 – св. Імша;
15.00 – абед, заканчэнне сустрэчы.

*Аб удзеле ў спатканні неабходна загадзя паведаміць кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы, па тэлефоне: (8 029) 116-87-26.*

## Каляндар падзей

***28 верасня***
*Успамін св. Вацлава, мучаніка.*

***29 верасня***
*Свята святых арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала. Св. Міхал – заступнік Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Молімся за пастыраў і вернікаў нашай краіны.*

***1 кастрычніка***
*Успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус. Распачацце кастрычніцкага набажэнства. Заахвочваем да ружанцовай малітвы ў касцёлах, капліцах і дома.*

***2 кастрычніка***
*Успамін святых Анёлаў-ахоўнікаў.*

***4 кастрычніка***
*Успамін св. Францішка Асізскага. Дзень імянін Святога Айца Францішка.*

***5 кастрычніка***
*Успамін св. Фаўстыны Кавальскай.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***

*Каб з тэрыторыі нашай дыяцэзіі Пан Бог паклікаў місіянераў і місіянерак, здольных адважна пайсці за Хрыстом і служыць Яму ў місійных краінах.*

Дзіцячы куточак

# ЕЗУС – МОЙ НАЙЛЕПШЫ НАСТАЎНІК

*Навошта трэба вучыцца? Напэўна, каб здабыць веды, стаць разумнымі. У гэтым нам дапамагаюць бацькі, настаўнікі, катэхеты, якія імкнуцца перадаць важныя жыццёвыя ўрокі. Але ёсць яшчэ адзін вельмі добры Настаўнік – Езус. Праз сваё Слова і сакраманты Ён хоча паказаць кожнаму з нас шлях у Краіну вечнага жыцця. Трэба толькі слухаць Яго і прасіць у малітве аб ласцы мудрасці.*

*Пра тое, як важна быць паслухмяным, прыслухоўвацца да парад старэйшых, будзе наступнае апавяданне Бруна Ферэйра.*

*На невялікай ферме сярод палёў бедны сельскі жыхар скардзіўся:*

*– Таксама і ў гэтым годзе прапала жыта, авёс і ячмень. На такой зямлі толькі персікі добра растуць. Але шукаць іх трэба ў Іншай Краіне. Яна знаходзіцца вельмі далёка, а я не маю ані сіл, ані часу.*

*Пачуўшы гэтыя нараканні, яго сын Сандрына рашуча сказаў:*

*– Туды магу пайсці я і мая сястра Ларэта. Мы ўжо дарослыя і вельмі хацелі б убачыць Іншую Краіну.*

*Бацькі цяжка ўздыхнулі. Яны не хацелі адпускаць дзяцей у такую далёкую дарогу, аднак пагадзіліся. Купілі ім дабротныя чаравікі і прыгатавалі ежу на вандроўку.*

*Дзеці з радасцю вырушылі ў шлях. Калі апынуліся на беразе вялікага балота, да іх падыйшла чапля і сказала:*

*– Я Даўганогі Майстар, гаспадар балота. А хто вы такія і што тут шукаеце?*

*– А мы брат з сястрой, хочам перайсці праз балота, – адказалі дзеці.*

*– Гэта немагчыма! – усклікнула чапля. – Каб прайсці праз балота, патрэбны доўгія ногі – такія, як мае, каб не ўгразнуць у багне па шыю.*

*– А я паспрабую! – рашуча сказаў Сандрына і пайшоў наперад. Але хутка пачаў тануць у балоце.*

*Дзяўчынка працягнула руку брату і, цягнучы з усіх сіл, дапамагла яму выйсці на бераг.*

*– Гм… – прамармытала чапля. – Прысядзьце і паслухайце мяне. Вы можаце зрабіць сабе хадулі з доўгіх кіёў. Гэта будуць вашы драўляныя ногі, якія і дапамогуць прайсці праз балота.*

*Дзеці знайшлі 4 доўгія кіі. Чапля паказала ім, як зрабіць хадулі. Калі яны былі зроблены, Сандрына і Ларэта ўсталі на іх, падзякавалі чаплі і з лёгкасцю прайшлі праз балота.*

*– Ух! Атрымалася! – уздыхнуў Сандрына, калі яны былі на другім беразе вялікага балота.*

*Ларэта, аднак, не вельмі ўзрадавалася:*

*– Паглядзі на тую скальную сцяну перад намі. Яна высокая, як башня, і не бачна яе канца!*

*– Нічога, паспрабуем, – сказаў Сандрына і пачаў узыходзіць на гару. Аднак хутка саслізгнуў на зямлю.*

*– Што будзем рабіць? – спыталася Ларэта.*

*Тады да іх падышла малпа і сказала:*

*– Я Майстар Чатыры Рукі. А вы хто такія і чаго хочаце?*

*– Мы двое дзяцей, хочам узабрацца на скалу.*

*– Гэта немагчыма! – запярэчыла малпа. – Каб узабрацца на вялікую скалу, трэба быць такой жа спрытнай, як я. Але ёсць адзін спосаб. З вашых хадуляў пры дапамозе дрэва можна зрабіць лесвіцу.*

*Калі лесвіца была зроблена, дзеці падзякавалі малпе і лёгка ўзышлі на вяршыню скалы. Спусціліся з яе і пайшлі далей, аж пакуль не натрапілі на вялікае возера.*

*– Паглядзі, там бачна Іншая Краіна, а там растуць персікі! – усклікнуў Сандрына.*

*Ларэта ўздыхнула:*

*– Магчыма… Але ці ты не бачыш, якое шырокае гэтае возера? Мы не пераплывём яго ніколі!*

*– Давай паспрабуем! – крыкнуў Сандрына і ўскочыў у ваду. Яна аказалася вельмі сцюдзёнай, і хлопчык хутка выбег на бераг.*

*У гэты час да іх падплыла качка і сказала:*

*– Я Майстар Спадарожны Вецер. А вы хто такія і чаго хочаце?*

*– Мы дзеці. Хочам пераплыць гэтае возера.*

*– Немагчыма, – сцвердзіла качка. – Вада тут вельмі халодная, а возера – шырокае. Аднак ёсць адзін спосаб. Можаце пабудаваць са сваёй лесвіцы човен і вёслы, каб пераплыць возера.*

*Сандрына і Ларэта працавалі пад кіраўніцтвам качкі з вялікім запалам. У хуткім часе човен быў гатовы. Дзеці падзякавалі качцы і, энергічна веслуючы, пераплылі на другі бераг возера.*

*– Ох, які прыгожы човен! – сказаў прынц, якога яны сустрэлі там. – Ніколі не бачыў такой прыгажосці... Хачу мець яго!*

*Прынц падараваў дзецям торбачку залатых манет. Сандрына і Ларэта ўзялі ад радасці.*

*– Цяпер мы зможам купіць шмат персікавых дрэў! – сказаў Сандрына. – За рэшту набудзем каня і павозку, каб усё перавезці. Мы ўжо навучыліся пераадольваць перашкоды, таму вернемся да нашых бацькоў іншым, больш простым шляхам.*

*Маленькі Чытач! У паўсядзённым жыцці Ты таксама можаш сустрэцца з рознымі перашкодамі. Важна, каб умеў звяртацца за дапамогай да бацькоў альбо настаўнікаў ці катэхетаў. Галоўнае, ніколі не забывайся пра тое, што Езус на кожным кроку можа працягнуць Табе руку дапамогі, трэба толькі звярнуцца да Яго ў малітве.*

***Заданне:** выпішы на аркушы паперы ўсіх тых, каго можаш назваць сваімі настаўнікамі, і падзякуй Пану Богу за іх у малітве.*

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, поспехаў у паслузе на карысць Богу і людзям, аптымізму, радасці і шчасця на кожны дзень. Няхай Пан будзе шчодры на свае ласкі і благаслаўленне, Маці Божая нястомна апекуецца Вамі, а Святы Дух удзяляе свае дары.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, Пан вядзе праз жыццё, а Святы Дух адорвае ўсімі дарамі і асвячае святарскі шлях.

*З малітвай, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень. Няхай Бог адорыць Вас здароўем і доўгім жыццём, радасцю і надзеяй, а з твару ніколі не зыходзіць усмешка. Аддзяч, Божа за тое, што Вы з намі!

*Удзячныя парафіяне з вёскі Каменка, Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пацыну**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Божыя ласкі шчодра сыходзяць на Вас, пастаянна адчуваецца апека Маці Божай і святога Заступніка, дары Святога Духа ўмацоўваюць Вас, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя і стойкасці на выбраным шляху, штодзённай радасці і надзеі.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі з Радуні*

**Паважанаму Айцу Багуславу Вуйтовічу**

з нагоды Імянін шчыра жадаем шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Панны Марыі, добрага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень і добразычлівых людзей побач. Няхай з Божай дапамогай здзяйсняюцца ўсе Вашы намеры і планы.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гальшанаў*

**Паважаная Спадарыня Рэгіна Шпень!**

З нагоды Вашага юбілею ад шчырага сэрца жадаем, каб здароўе было моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Дзякуем Пану Богу і Вам за тое, што выхавалі нашага святара, а таксама за Вашу ахвярную працу і дапамогу нашай парафіі на працягу многіх гадоў. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя апекуецца Вамі, а міласэрны Бог благаслаўляе і ўдзяляе патрэбныя ласкі.

*Вернікі з касцёла Апекі НПМ, парафія Дайлідкі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў паслузе. Няхай Маці Божая і святы Заступнік нястомна чуваюць над Вамі і падтрымліваюць у нялёгкай душпастырскай працы.

*Аніматар спадар Андрэй Слонімец разам з членамі Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Бердаўкі і Першамайска*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Дня нараджэння шлём самыя цёплыя пажаданні: усіх Божых ласкаў і няспыннай апекі Панны Марыі, моцнага здароўя, штодзённай радасці, аптымізму, душэўнага супакою. Няхай добры Бог заўсёды выслухоўвае Вашы малітвы і дапамагае ў цяжкія хвіліны. Дзякуем за нязгасны запал у святарскай паслузе, за адрамантаваны касцёл і добраўпарадкаваную тэрыторыю вакол яго, за Вашу ахвярную працу на карысць Богу і людзям, штодзённы клопат аб парафіянах, прыветлівасць, добрыя словы і справы.

*З павагай, парафіяне з Цудзенішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Ціхану**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, нястомных сіл, добразычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух спашле на Вас свае дары, Найсвяцейшая Панна Марыя ахіне нябесным плашчом, баронячы ад небяспекі, і атуліць мацярынскай любоўю.

*Вернікі з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Церабею**

з нагоды 15-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў, Дня нараджэння і пачатку навучальнага года шчыра жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці, зычлівых людзей побач, усіх патрэбных ласкаў ад Пана і моцнай веры. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а паслуга прыносіць радасць і шчодры плён.

*Парафіяне з Барунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем упэўнена стаяць на святарскім шляху. Сцежка, якую Вы выбралі, нялёгкая. Таму няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, Святы Дух апраменьвае святлом кожны дзень, паслуга будзе напоўнена радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне і парафіяне з Аўгустоўка*

**Паважаным Ксяндзам Анджэю Ганчару, Руслану Мазану, Алегу Кананові чу**

з нагоды Дня Нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення, моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской зычлівасці, стойкасці ў душпастырскай працы і няспыннай апекі Панны Марыі.

*З малітвай, Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя, Гродна*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4757; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная